АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

21 – 27 МАЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 20000 РУБЛЁЎ
№21 (213)

«Рэгіянальная газета» змяніла свой электронны адрас. Цяпер ён выглядае так:
**region_news@irex.minsk.by**

СМАРГОНЬ

## На Смаргоншчыне з'явілася гімназія

*Рашэннем райвыканкома сярэдняя школа № 4, якая нядаўна прайшла атэстацыю Міністэрства адукацыі, пераўтвораная ў гімназію.*

За школьныя парты з 1 верасня тут сядуць таленавітыя вучні горада, а з 2001 года – і лепшыя вясковыя школьнікі, для чаго да таго часу пры гімназіі будзе адкрыты інтэрнат.

Навучанне пройдзе па чатырох ступенях у залежнасці ад узросту дзяцей. Асноўнымі профілямі работы гімназіі стануць эканамічны, матэматычны, хіміка–біялагічны і гуманітарны.

Адміністрацыя і педагагічныя работнікі будуць залічаныя ў штат гімназіі і па конкурсе, і на кантрактнай аснове.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Чуткі аб банкрутстве "Электрамодуля" не пацвердзіліся

Па горадзе папаўзлі настойлівыя чуткі, што на АТ "Электрамодуль" працуе камісія па банкрутстве. Па тлумачэнні мы звярнуліся да першага намесніка старшыні выканкома **Яфіма Ідэльчыка**. Яго адказ быў лаканічны:

– Гэта звычайнае глупства!

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Будматэрыялы без праблем

*Купіць будаўнічыя матэрыялы ў горадзе няцяжка. Гэта можна зрабіць у магазінах лясгаса, АП "Смаргоньсілікатабетон", дзяржаўнага гандлю, заказаць у РБП "Пабудова", камерцыйнай структуры "Гурон" і па шэрагу іншых адрасоў.*

Днямі ліцэнзію на права гандлю будаўнічымі матэрыяламі атрымала і камерцыйная фірма "Тэмп". Яна прапануе пакупнікам шырокі выбар неабходных будматэрыялаў праз свой магазін–склад.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Настаўнікі будуюць жыллё

*9 настаўніцкіх сем'яў у раёне пачалі будаваць індывідуальныя катэджы. Яны з Багданаўскай, Вішнеўскай, Пяршайскай, Суднікаўскай, Сакаўшчынскай СШ і з СШ № 2 райцэнтра.*

Яшчэ 5 гарадскіх настаўнікаў сталі членамі ЖБК "Меліаратар", 8 - ЖБК "Налібокі", 6 педагогаў Івянецкай СШ і выхавацеляў дзіцячага садка ўступілі ў ЖБК "Крыніца".

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Бульбачка польская

*Што толькі ні вязуць гандляры з Польшчы... Гараджане прызвычаіліся да польскага сала, сасісак, яблыкаў.*

А цяпер на калгасным рынку з'явілася і польская бульба: адборная, буйная, чыстая. Каштуе вядро на 50 тысяч рублёў больш, чым побач беларуская.

Пэўна, гэта толькі ў Тулу з сваім самаварам не ездзяць.

*Святлана САРОКА.*

СМАРГОНЬ

## У люстэрку ўсё відаць

*Цэх дэкаратыўнага напылення пачаў работу на заводзе аптычнага станкабудавання. Яго прадукцыя — люстэркі мэблевай прамысловасці і бытавых патрэб. Такая вытворчасць арганізавана ўпершыню. Першасны матэрыял — шкло — атрымліваюць з АТ "Гомельшкло". Асноўныя спажыўцы — мэблевыя фабрыкі краіны.*

Стварэнне новага цэха часткова вырашае тры задачы: нарошчванне аб'ёмаў вытворчасці тавараў народнага спажывання; стварэнне новых рабочых месцаў; загрузку вольных плошчаў.

Усяго ў новым цэху працуе 21 чалавек, пераважна жанчыны. У першым квартале цэх вырабіў і рэалізаваў прадукцыі на 4510 мільёнаў рублёў. Спажыўцы задаволеныя якасцю люстэркаў, таму праблем са збытам няма.

Ужо сёлета плануецца далейшае пашырэнне вытворчасці. З уводам новай вакуумнай устаноўкі аб'ём выпуску люстэркаў будзе даведзены да 4 тысяч квадратных метраў у квартал, што ў цяперашніх адпускных цэнах складзе больш за 7 мільярдаў рублёў. З'явіцца яшчэ 6 новых рабочых месцаў.

*Павел МАКЛЮК.*

# Пілігрымы з Варшавы – на Вілейшчыне

У чарговай, дзевятай, вандроўцы па рымска – каталіцкіх касцёлах з мошчамі святога Анджэя Баболі цяпер знаходзіцца група варшавян. 18 мая палякі наведалі чарговы пункт свайго маршруту – касцёл святой Панны Марыі ў Касцяневічах ля Вілейкі. Групу ў некалькі дзесяткаў чалавек узначальвае доктар інжынер з Варшаўскай Палітэхнікі (Політэхнічны Універсітэт) пані Тарэса Валеўская–Пшыялкоўская.

*Аддзел інфармацыі.*

*Касцяневічы — адзін з пунктаў падарожжа*

## Патрон Варшавы

З 17 мая 1992 года святы Анджэй Баболя быў абвешчаны патронам Метраполіі Варшаўскай. У Міжваенные дваццаціґоддзе бласлаўлёны Анджэй быў патронам усёй Польшчы, у т.л. і зямлёй Заходняй Беларусі.

Сёння ў Польшчы мошчы Баболі вандруюць з сям"і ў сям"ю – па тых сем"ях, куды іх запрашаюць. Каталікі ўважаюць, што гэта спрыяе паяднанню паміж блізкімі і богам. Летась мошчы святога былі ў папы Рымскага. Імя Баболі сімвалізуе экуменістычны рух у свеце.

*М.Г.*

## Анджэй Баболя і "Цуд над Віслай"

А. Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе ў Польшчы. Вучыўся ў езуіцкай школе. Прыняў манаскі сан ў Вільні ў 1611 годзе. Яго жыццё было звязана такса ма з Нясвіжам, Бабруйскам, Пінскам. 16 мая 1657 года місіянер Баболя быў замардаваны казакамі ў Янаве (Іванаве) на беларускім Палессі.

Палякі звязваюць сваю сакрушальную перамогу над бальшавіцкімі войскамі ў жніўні 1920 года (**"Цуд над Віслай"**) з вынікам малітваў і працэсій з мошчамі Анджэя Баболі і Уладыслава з Гельнёва.

Труна з мошчамі святога Баболі трапіла ў 1922 годзе з Полацка ў экспазіцыю Гігіенічнай выстаўкі Наркома аховы здароўя РСФСР у Маскве.

Урэшце бальшавікі аддалі каталіцкую святыню ў Рым.

Кананізаваны Баболя ў 1938 годзе. Сёння яго мошчы стала знаходзяцца ў Варшаве. Частка іх штогод вандруе па Беларусь, найчасцей на Палессе, дзе Баболя прыняў пакутніцкую смерць.



*Пані Марыля Тапчэўская–Мяцельская (злева) і пані Тарэса Валеўская–Пшыялкоўская ля ўваходу ў Касцяневіцкі касцёл святой Панны Марыі. Гэтыя жанчыны — суаўтаркі (разам з Эвай Мар"яй Твароўскай) кнігі аб святым Анджэю Баболю.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

ПАРЛАМЕНЦКАЯ ХРОНІКА

## Адхілены варыянт закона

МІНСК. Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у чарговы раз адхілілі праект закона аб дэклараванні фізічнымі асобамі даходаў, маёмасці і крыніц грашовых сродкаў.

Каля года таму дэпутаты пераглядзелі памеры маёмасных здзелак, што падлягалі абавязковаму дэклараванню, прапанаваўшы павялічыць іх з 200—500 да 1000—2000 мінімальных зарплат. Апрача таго, яны прапанавалі скараціць колькасць дзяржаўных органаў, якія валодаюць правам патрабаваць у фізічных асоб дэкларацыі аб крыніцах іх даходаў. Замест указаных у дэкрэце Камітэта дзяржкантролю, Камітэта фінансавых расследаванняў, МУС, Пракуратуры, КДБ і падатковай інспекцыі дэпутаты прапанавалі пакінуць толькі апошні.

Аднак прэзідэнт не пагадзіўся з дэпутацкімі папраўкамі і прапанаваў прывесці дакумент у адпаведнасць з яго дэкрэтам. 13 красавіка дэпутаты пагадзіліся з пярэчаннямі кіраўніка дзяржавы, але пры паўторным разглядзе праекта закона нечакана зноў змянілі сваё рашэнне і адхілілі яго. Дакумент адпраўлены для далейшага ўзгаднення.

*Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.*



АСЦЯРОЖНА: ЗЛЫ САБАКА

## Ізноў вірус?

*МАЛАДЗЕЧНА. Апошнім часам з розных крыніц рэдакцыю паступілі паведамленні—перасцярогі пра новыя камп'ютэрныя вірусы. Такім чынам:*

– калі атрымаеце e-mail «GET MORE MONEY», будзьце вельмі пільныя. Лепш паведамленне знішчыць, нават не адкрываць і не чытаць, бо вірус, які пераносіцца разам з ім, знішчае ўсё, што знаходзіцца на цвёрдым дыску. Вірус, кажуць, новы, пра яго мала хто ведае. Цікава, што інфармацыя пра яго, па ўсёй верагоднасці, пачала распаўсюджвацца праз Microsoft.

Таксама раяць быць асцярожным у дачыненні да звычайнага паведамлення «RETURNED OR UNABLE TO DELIVER». Сцвярджаюць, што гэта вірус і невядома, як з ім змагацца.

Што тычыцца рэдакцыі «РГ», то мы б параілі карыстальнікам камп'ютэрнай тэхнікай звяртацца да паслуг «супрацьвірусных» сервісных фірм. Як, прыкладам, маладзечанская «SB computers» (рэклама – у праграме TV).

*Аддзел інфармацыі.*

ТЭЛЕБАЧАННЕ

# Што сёння па кабельным TV?

*МАЛАДЗЕЧНА. Тры прыватныя фірмы кабельнай рэтрансляцыі тэлевізійных праграм абслугоўваюць гараджан: "Шанс-TV" (дырэктар Генадзь Лагутка), "Антэна" (дырэктар Валянцін Давідовіч), "Тэхнатронік" (дырэктар Сяргей Нецыпронак). Ва ўсіх адзіны кошт паслуг — 36 тысяч рублёў у месяц (разам з тэхнічным абслугоўваннем кліентаў) і агульны джэнтльменскі набор праграмаў: БТ, ОРТ, РТР, НТВ, Культура, маскоўскі канал ТВ—цэнтр і REN-TV.*

Натуральна, у інтарэсах кліентаў мець больш шырокі спектр тэлевізійнай прадукцыі. Увесці дадатковыя каналы магчыма, але гэта вымагае дадатковыя сродкі, якія трэба плаціць камітэту па захаванні аўтарскіх правоў пры Міністэрстве юстыцыі. А іх, натуральна, няма. Да таго ж, гэтыя сістэмы калектыўнага прыёму тэлевяшчання могуць трансляваць каналы толькі па ўзаемаўзгадненні з дзяржаўнай інспекцыяй электрасувязі. З адпаведным выбарам дазволеных каналаў.

**Генадзь Лагутка** кажа, што пытанне пра аб'яднанне ўсіх маладзечанскіх TV–сістэм у адзіную інфармацыйную тэлевяшчальную сетку ставілася ў гарвыканкоме. Ёсць намер стварыць і ў Маладзечне нешта накшт мінскага "Космас-TV", сумеснай беларуска–амерыканскай інфармацыйнай сеткі, якая дазваляе глядзець 26–30 каналаў. Але гэта ў будучым, бо інвестараў, якія б фінансавалі праект, пакуль няма.

Раней мясцовыя тэлевізійшчыкі падпарадкоўваліся ВА "Камунальнік". Праблемы ўзнікалі ў абодвух бакоў. Цяпер выйшлі з-пад іх апекі. Аднак асноўная праблема, якая не знікла і клапоціць, – старыя антэны на дамах. Тэрмін прыгоднасці іх даўно сышоў, таму ўзнікаюць складанасці з падключэннем дамоў да кабельнай рэтрансляцыі. Дарэчы, калі плата за карыстанне кабельнымі сеткамі ўносіцца несвоечасова, абанент можа быць і адключаны.

"Шанс-TV" на сёння абслугоўвае 5000 абанентаў у 60 дамах двух мікрараёнаў, ад гарадскога парку да АТ "Электрамодуль". Гэта вуліцы Б. Хмяльніцкага, Будаўнікоў, Вялікі Гасцінец, Францыска Скарыны. "Антэна" і "Тэхнатронік" сваіх кліентаў знайшлі ў 4–м і 6–м гарадскіх мікрараёнах.

*Святлана САРОКА.*

# У "Рэгіянальнай газеце" – тэлежурналіст з Расіі

*У "Рэгіянальнай газеце" з панядзелка па чацвер гасцяваў журналіст з медыяхолдынга "4–ы канал" з Екацярынбурга Аляксей Панамароў.*

Аляксей працуе у буйнейшай тэлекампаніі Екацярынбурга другі год. Скончыў школу тэлежурналістаў БіБіСі. Здымае цікавыя сюжэты, што не радзей, чым два разы на месяц, транслююцца НТВ. У нас ён цікавіўся жыццём звычайнага беларуса. Рабіў рэпартажы з калгаснага рынка ў Маладзечне, са зверасаўгаса "Беларускі" на Вілейшчыне, аўтазаправачнай станцыі, магазінаў, нашай рэдакцыі.

*Мікола ГАЙДУК.*



*Аляксей Панамароў, які упершыню ўбачыў жывога бусла, спыніўся ля буслянкі пры ўездзе ў Вілейку, каб расказаць сваім землякам аб белакрылым сімвале нашай краіны.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

**"Права – гэта не тое, што хтосьці Вам дае, а тое, што ніхто не можа у Вас адабраць."**
***Рамзей Кларк***
***Былы генеральны пракурор ЗША, 1977***

Праграма ProMedia Прадстаўніцтва IREX на Беларусі сумесна з Кансультацыйна–Назіральнай Групай АБСЕ і Прадстаўніцтвам Еўрапейскай Камісіі на Беларусі аб'яўляюць конкурс **"Журналісты на карысць верхавенства закона"** для журналістаў друкаваных сродкаў масавай інфармацыі Беларусі.

Конкурс мае на мэце падняць узровень прававой культуры ў грамадстве праз распаўсюджванне інфармацыі пра ўстанаўленне вяршэнства закону, грамадзянскія правы і абавязкі ў беларускім грамадстве.

Прэміі будуць прысуджаны за лепшы артыкул у наступных намінацыях:

- **Правы чалавека / Грамадзянскія абавязкі**
- **Свабода слова і друку/ Доступ да інфармацыі**
- **Права на карысць эканомікі**

Асноўнымі крытэрыямі пры прыняцці рашэння аб прысуджэнні прэміі з'яўляюцца:

- Актуальнасць,
- Аб'ектыўнасць і бесстароннасць у асвятленні праблемы,
- Пабудова артыкула на канкрэтных фактах,
- Асветніцкі напрамак,
- Арыгінальнасць падачы матэрыяла.

Да разгляду будуць прымацца артыкулы, надрукаваныя паміж 3 мая 1999 года і 15 кастрычніка 1999 года памерам не болей за 2500 слоў.

Апошні тэрмін падачы артыкулаў на конкурс – 1 лістапада 1999 года.

Пераможцы будуць аб'яўлены 24 снежня.

Пераможцаў чакаюць:

- Камп'ютэр "Лэп–топ"
- Стажыроўкі ў СМІ краін Заходняй і Усходняй Еўропы
- Лічбавая фотакамера ды іншыя каштоўныя прызы.

Журы складаецца з прадстаўнікоў міжнародных і грамадскіх арганізацый, журналістаў.

Нумар газеты, дзе Ваш артыкул надрукаваны, суправаджальны ліст і кантактную інфармацыю дасылайце, калі ласка, на адрас: 220005 Мінск, п/с 90 з паметкай ***"На конкурс"***.

# Выстаўка ў краязнаўчым

*МАЛАДЗЕЧНА. Дзень музеяў мясцовы краязнаўчы сустрэў сапраўды прафесійна - адкрыццём выстаўкі "Дэкаратыўна-прыкладне мастацтва Міншчыны". Супрацоўнікі музея сабралі экспанаты народных майстроў з Мінска, Маладзечанскага, Вілейскага, Барысаўскага і іншых раёнаў.*

Гэта выразаныя з дрэва статуэткі івянчаніна **А. Пупко** (Івянец), які, на жаль, пайшоў ужо з жыцця, маладзечанскага ўмельца **Д. Сырамятнікава.** Выстаўленыя вырабы з берасту мінчаніна **А. Чапялянскага**, з лазы **І. Каркоцкага** (вёска Більцэвічы). Шмат розных работ мужа і жонкі **Ржавуцкіх** (Барысаўскі раён), асабліва прываблiваюць цацкі з гліны - лялькі-свістулькі.

Тут і пляценне - шкатулкі з саломы **П. Гатоўкі** (вёска Урэчча). І аплікацыі – пано маладзечанца **Ю. Церабуна**. Конікі, бегемоцікі, жабяня ды кветкі з каляровага шкла **А. Новіка** (Барысаў).

Намеснік дырэктара музея **Таіса Лянкевіч** распавяла пра ўдзельнікаў выстаўкі, зазначыла, у прыватнасці, што свой шкляны цуд А. Новік робіць у гарадской кватэры на звычайнай газавай пліце.

На адкрыццё выставы была запрошаная разам з вучнямі маладзечанская майстрыха **Вікторыя Чырвонцава**, Яна сама прадстаўляла свае работы з льну і работы сваіх навучэнцаў. Ад горада музей атрымаў падарунак – карціну **Аляксандра Пашкевіча.**

З 24 па 30 мая краязнаўчы музей праводзіць "Тыдзень турызму і краязнаўства". Таму дзверы яго будуць адчынены (бясплатна) для наведвальнікаў. Нагадваем, што працуе ён з 9.00 да 17.00 ва ўсе дні, акрамя нядзелі.

*Святлана САРОКА.*

*НАГАДВАЕМ ПАЛЯЎНІЧЫМ І РЫБАЛОВАМ*

## Скончыўся сезон палявання

10 мая быў апошнім афіцыйна дазволеным днём палявання на пералётных гусей ды іншых пярнатых. Увогуле ў маі скончыўся тэрмін вясновага палявання ў рэспубліцы.

## Рыба ідзе на нераст

Рыбу цяпер нельга лавіць нідзе – пачаўся двухмесячны нерастовы перыяд. На тэрыторыі Мядзельскай гаспадаркі толькі на возерах Рудакава і Белае дазволеная лоўля з берага вудай.

*Святлана САРОКА.*

*АДУКАЦЫЯ*

## З еўрапейскай адукацыяй

ВАЛОЖЫН. Настаўніца Судніkаўскай СШ **Алена Княжэвіч** 6 тыдняў стажыравалася ў пачатковай школе г. Аўгустсена. Вучоба арганізаваная хрысціянскім саюзам моладзі Нямеччыны і разлічана на 2 гады. Гэта быў першы этап, у ходзе якога Алена вывучала методыку выкладання, працавала ў звычайнай школе памочнікам настаўніка.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*АБСЛУГОЎВАННЕ*

## Прыватнае мыццё смаргонцаў

СМАРГОНЬ. 33 сельскія і 2 гарадскія лазні налічваюцца ў раёне. Але ж працуюць усяго 17 на вёсцы і адна ў горадзе.

Летась райвыканком прыняў рашэнне аб паляпшэнні лазневага абслугоўвання, а днямі праверыў ход яго выканання. Выявілася, што на вёсцы адна лазня прыходзіцца ў сярэднім на чатырох чалавек, бо за год выканання рашэння на льготных умовах, як і было ім прадугледжана, вяскоўцы здолелі пабудаваць ажно 722 прыватныя лазні – 109 у Вішнеўскім, 83 у Жодзішкаўскім, 62 у Ардашынскім і іншых сельсаветах.

*Павел МАКЛЮК.*

*ГАРАСКОП 24 – 30 МАЯ*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Кепскі дзень 25, важны 28. Паспяхова завершыш важную справу, але ўзнагароду атрымаеш пазней.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Важныя дні 27, 28. Табе прыйдзецца прымаць складанае рашэнне прадалейшае супрацоўніцтва з дзелавым партнёрам.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добрыя дні 24, 25. Атрымаеш весткі з–за мяжы.

**РАК (22.06–23.07)**
Важны дзень 26. Будзеш прымаць рашэнні самастойна па ўсіх важных пытаннях.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Наблізішся да ўзлёту ў сваёй кар'еры.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Добры дзень 27, важны 29. Упэўнена пачынай здзяйсняць свае планы.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Пераканаешся, што ў кар'еры табе дапамагаюць планеты.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Добры дзень 24, кепскі 30. Дасягнеш поспехаў ва ўсіх сферах сваёй разнабаковай дзейнасці.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Будзеш разглядаць прапановы пра выгадную работу.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Добрыя дні 28–30. Захаваеш аптымізм адносна далейшых поспехаў у асабістым жыцці.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Пачынаецца перыяд, які прынясе табе адныя задавальненні.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Важны дзень 26. Падпішаш кантракт, які адразу прынясе добрыя вынікі.

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 12.05 | 19.05 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 415 | **460** |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1196 | **1179** |
| Сардэлькі | 1 кг | 573 | 485 |
| Селядзец | 1 кг | 290-300 | **300** |
| Рыс | 1 кг | 200 | **200** |
| Цукар | 1 кг | 140 | **138** |
| Грэчка | 1 кг | 162 | **170** |
| Алей | 1 л | 390 | **380** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 142-160 | **150** |
| Маянэз | 250 г | 70–80 | **80** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 430 | **450** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 120 | **120** |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 110 | **110** |
| Лімоны | 1кг | 500 | **500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180-200 | **240** |
| Масла | 1 кг | 500 | **500** |
| Тварог | 1 кг | 150 | **140** |
| Малако | 1,5 л | 50 | **50** |
| Бульба | 1 вядро | 220-250 | **300** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 150-170 | **170** |




*Маладзечна, калгасны рынак, 19 мая. Рыбны рад.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА

## Стратныя прадпрыемствы

СМАРГОНЬ. Па выніках работы ў першым квартале 20 прадпрыемстваў і арганізацый раёна (справаздачы прадставілі 90) былі стратнымі на агульную суму 24479 мільёнаў раблёў. Удзельная вага стратных склала 22,2% супраць 26,7 на 1 красавіка мінулага года.

У прамысловасці стратныя два прадпрыемствы на агульную суму 964 мільёны рублёў, у аграпрамысловым комплексе 7 на суму 21627 мільёнаў рублёў, столькі ж стратных – у гандлі і грамадскім харчаванні ды яшчэ адна арганізацыя – будаўнічая.

*Павел МАКЛЮК.*

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

## Устанаўліваецца асоба

МАЛАДЗЕЧНА. Аддзелам унутраных спраў гарвыканкома ўстанаўліваецца асоба жанчыны, труп якой быў знойдзены 17 мая 1999 года у лясным масіве вёскі Чарчонава Маладзечанскага р–на.

Прыкметы: на выгляд 22–25 год, рост 178 см, хударлявага целаскладу, валасы цёмна–русыя, даўгія. Была апранутая: куртка з плашчовай тканіны белага колеру, світэр жоўта–зялёнага колеру камбінаваны, сінія джынсы, чорныя туфлі на шнурках на тоўстай падэшве.

Просім гараджан, якія што–небудзь ведаюць пра гэта, патэлефанавць **у Маладзечанскі ГРАУС 7–61–10, 7–61–55, ці па 02** у бліжэйшае аддзяленне міліцыі.

*СЯМ'Я*

## Жанчыны без сям'і

СМАРГОНЬ. Прэзідыум раённага жансавета даў жанчынам магчымасць напярэдадні міжнароднага дня сям'і... адпачыць ад сям'і? Не ўсім, праўда, а тым, якім па волі лёсу сёння даводзіцца як нікому дбаць пра сваю сям'ю ці "ячэйках грамадства" смаргонцаў увогуле.

На сустрэчы за "круглым сталом" вядучай і душой жаночай кампаніі стала намеснік старшыні райвыканкома **Святлана Шмыга** (яна ж адначасова і старшыня жаночага Савета). Размова аб праблемах сучаснай сям'і пачалася з несуцяшальных лічбаў і фактаў. За мінулы год на Смаргоншчыне зарэгістравана 417 шлюбаў, а колькасць разводаў за гэты ж тэрмін склала 271. На сёння ў горадзе і раёне 218 сем'яў з хворымі дзецьмі. Перава́жны цяжар і адказнасць у нашых сем'ях лажыцца на жаночыя плечы. Аднак якой бы моцнай і мужнай, цярплівай і клапатлівай не была жанчына, яна нічога не пераадалее адна.

Работнікі рэстарана "Вілія" прапанавалі спецыяльна прыгатаваныя стравы (як выказалася С. Шмыга, "з нічога"): бульбяныя піражкі, салату з гародніны, піражкі са шчаўем.

Жанчыны дзяліліся парадамі, разважаннямі, чыталі вершы, спявалі, нават згулялі ў інтэлектуальную гульню. І хоць за сталом мужчыны адсутнічалі, было шмат жартаў і цікавых адкрыццяў, бо сабраліся жанчыны, якім было пра што сказаць і прапанаваць.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

# Адам

*Прысвячаецца Ірыне Уладзіславаўне Ніжанкоўскай*

## Мястэчка слаўны сын

Яго назвалі Адамам. У гонар першага чалавека. І не памыліліся. Бо сапраўды, у шмат якіх людскіх пачынаннях ён быў першым альбо адным з першых. Адным з першых далучыўся да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і ўсёй душой шчыра служыў яму. Першым з Радашкавічаў атрымаў закончаную вышэйшую адукацыю. Першым...

Але давайце ўсё па-парадку. І каб акунуцца ў атмасферу таго, даўно адшумелага жыцця, трэба адкруціць віток гісторыі і тады ёсць магчымасць патрапіць у тое старамоднае, але такое спадзейнае XIX стагоддзе, бо менавіта там пачаўся жыццёвы шлях Адама Більдзюкевіча. Так склалася, што ў ягоным жыццяпісу больш пытанняў, чым гатовых адказаў. Пра яго не пішуць тоўстыя энцыклапедыі і саліднныя даведнікі, пра яго маўчаць беларускія гісторыкі і краязнаўцы, мовазнаўцы і эканамісты. Ён быў і яго няма. Але ён быў, ёсць і навечна застанецца ў гісторыі беларускага грамадска-культурнага Рэнесансу нашага стагоддзя.

Нарадзіўся Адам Більдзюкевіч у мястэчку Радашкавічы ў мяшчанскай сям'і пры самым канцы мінулага стагоддзя. Дакладная дата нараджэння невядомая. Бацькі яго Юзя і Сабіна былі даволі заможныя па тым часе людзі. Акрамя Адама было яшчэ двое дзяцей – сын Стась і дачка Кася. Бацька пражыў адносна кароткае жыццё, нарадзіўся ў 1871 годзе, а ў 1926 годзе яго не стала. У Радашкавічах на старой каталіцкай частцы могілак ён знайшоў свой вечны прытулак, побач пахаваныя жонка і старэйшы брат Адама Більдзюкевіча. Улічваючы той факт, што ягоны брат 1893 года нараджэння, то можна меркаваць з пэўнай доляй верагоднасці, што нарадзіўся Адам недзе ў 1895 ці 1896 гадах. Як было сказана на пачатку нашага аповяду, бацькі былі багатыя людзі, мелі 17 гектараў зямлі, некалькі дамоў, шмат коней і кароў. Адась падрастаў гультаяватым, ні пра што не думаючым хлопчыкам, балазе, быў самы малодшы з дзяцей. Вучыцца таксама не жадаў, больш хацелася займацца галубамі, і працягвалася гэта даволі доўга. Пакуль аднойчы бацька не вырашыў выкарыстаць самы апошні, але самы надзейны спосаб уздзеяння – добрую лупцоўку. І з таго часу хлопчыка як бы падмянілі. Стаў першым памочнікам бацьку па вядзенню гаспадаркі, тым больш, што старэйшаму брату здароўя бракавала – ён з дзяцінства быў хворы на эпілепсію ці, як тады называлі, падучую хваробу. І з вучобай у Адама справа паправілася. У хуткім часе ён стаў лепшым вучнем мясцовага Вышэйшага пачатковага чатырохкласнага вучылішча. Дзе працягваў далейшую вучобу, на жаль, не вядома. Па словах былога арандатара Нікадзіма Чараповіча, якому сёлета спаўняецца 97 гадоў, вучыўся ён ці то ў Маскве, ці то ў Петраградзе, у нейкай гімназіі. Чаму так далёка ад роднага краю патрапіў, ніхто ўжо дакладна не скажа. Якую вышэйшую навучальную ўстанову скончыў, таксама пакуль што не вядома. Адно можна сказаць з пэўнасцю, што вучыўся ён на эканамічным факультэце. Якраз там і адчуў сябе беларусам. Адносна гэтага вельмі трапна сказаў Антон Луцкевіч у артыкуле "Беларускі рух", які быў змешчаны ў Новым энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Эфрона: "Няма амаль універсітэцкага горада, дзе б не было беларускіх студэнцкіх гурткоў, прыкметных тымі ці іншымі мэтамі, скіраванымі на працу па адраджэнню беларускага народа".

## А Бацькаўшчына кліча

На Бацькаўшчыну вярнуўся недзе на пачатку 20-х гадоў. Жыў у Радашкавічах, якія знаходзіліся ў складзе Польскай дзяржавы. У той час Заходняя Беларусь бурліла. Восенню 1922 года адбыліся выбары ў польскі Сейм і Сенат. Беларусы выступілі адзіным нацыянальным фронтам. І атрымалі перамогу. Ад насельніцтва Краю было выбрана чатырнаццаць чалавек, якія прадстаўлялі практычна ўсе беларускія тагачасныя партыі. Яны ўтварылі Беларускі пасольскі клуб – нацыянальную дэпутацкую фракцыю. З іх адзінаццаць чалавек былі прадстаўнікамі Сейма, а менавіта, Б.Тарашкевіч, С.Рак-Міхайлоўскі, П.Мятла, А.Аўсянік, Ф.Ярэміч, С.Баран, У.Каліноўскі, С.Якавюк, А.Станкевіч, М.Кахановіч, В.Рагуля, а тры – Сената: В.Багдановіч, А.Назарэўскі і А.Уласаў. Засталося зусім мала часу для паўстання да жыцця Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (БСРГ) – самай масавай арганізацыі ў міжваеннай Еўропе.

Заставацца ў баку ад гэтых бурных падзей Адам Більдзюкевіч не меў ніякага ні чалавечага, ні тым больш грамадзянскага права. Глыбока эрудзіраваны, дасведчаны, выдатны эканаміст, ён становіцца сакратаром ці, інакш кажучы, дарадцам пры сенатары Аляксандры Уласаве, сваім даўнім знаёмым, земляку, патрыёце. На старых даваенных фотаздымках сярод беларускай інтэлігенцыі Радашкавічаў часта можна ўбачыць постаць Адама Більдзюкевіча. Крыху вышэй сярэдняга росту, заўсёды элегантна апрануты, з танюткімі вусікамі на высакародным твары, ён ствараў той прывабны вобраз новага беларускага інтэлігента пачатку XX стагоддзя. Па ўспамінах сучаснікаў, быў чалавекам сур'ёзным, зрэдзь часу дапускаючы толькі якія-небудзь жарты, вельмі тактоўным і нешматслоўным. Час быў адказны, а добрых спецыялістаў, сапраўдных прафесіяналаў бракавала ў беларускім патрыятычным асяроддзі, таму ўсюды стараўся паспець. Пасаду сакратара пры Уласаве сумяшчаў з выкладчыцкай працай пры Радашкавіцкай Беларускай гімназіі імя Ф.Скарыны (першага прызыву). Пазней, жывучы ў Вільні, быў сябрам Беларускага навуковага таварыства, на пасяджэннях якога выступаў з рэфератамі на эканамічныя тэмы па пытаннях кааперацыі і хутарызацыі.

А жыццё ў Заходняй Беларусі абвастралася. Польскія ўлады пад рознымі маркамі зачынялі беларускія школы, гімназіі, праводзілася паўсюдная і гвалтоўная паланізацыя, з'явіўся своеасаблівы клас новых прыгнятальнікаў беларускага народа – так званыя асаднікі. Яны сканцэнтравалі ў сваіх руках найбольшую і найлепшую частку беларускіх зямель, ім ствараліся ўсемагчымыя льготы для набыцця крэдытаў, будаўнічага матэрыялу, інвентару. Гэтая шавіністычная палітыка польскіх уладаў, іх нежаданне ўлічваць нацыянальныя правы беларускага народа, прывяло да разыходжанняў у Беларускім пасольскім клубе. Яго левае крыло пайшло на супрацоўніцтва з камуністамі і ў хуткім часе быў створаны асобны клуб альбо, інакш кажучы, фракцыя БСРГ. Яе лідэрам стаў Браніслаў Тарашкевіч. Фракцыя адкінула ідэю змагання за незалежную Беларусь, а паставіла за мэту далучыць заходнюю яе частку да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Такія планы не стваралі ў значнай часткі нацыянальнай інтэлігенцыі ілюзіі аб магчымасці пабудовы такога кшталту "Беларускага Дому", бо яна не верыла ў шчырасць нацыянальнай палітыкі, якая праводзілася ў СССР. Да такой інтэлігенцыі, якая стаяла на цвёрдых незалежніцкіх пазіцыях, належаў і Адам Бідьдзюкевіч. І таму ў канцы 1925 года паўстала ініцыятыўная група, створаная беларускімі пасламі ў польскі Сейм В.Рагулем і Ф.Ярэмічам, якая ставіла за мэту стварэнне Беларускай нацыянальнай партыі парламенцкага тыпу ў супрацьвагу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе. Першае і самае галоўнае іхняе разыходжанне было ў поглядах на далейшы лёс Беларусі, як нацыянальнай дзяржавы. У сакавіку 1926 года адбылася першая канферэнцыя новастворанай партыі, было выбрана кіраўніцтва, яе Цэнтральны Камітэт. Старшынямі сталі Васіль Рагуля і Фабіян Ярэміч, а віцэ-старшынямі Браніслаў Туронак і Адам Більдзюкевіч. Партыя стала называцца Беларускі Сялянскі Саюз (БСС). Адам Більдзюкевіч быў адказны за культурна-асветніцкую дзейнасць. У гэты час ён стаў шмат выступаць з грунтоўнымі артыкуламі па пытаннях культуры ды эканомікі на старонках беларускага перыядычнага друку, а найперш, у "Сялянскай Ніве", друкаваным органе БСС.

Летам таго ж года кіраўніцтва Сялянскага Саюза разам з лідэрамі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі заснавалі Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, сядзіба якога знаходзілася ў Вільні на вуліцы Вострабрамскай, у доме пад нумарам восем. Аўтарытэт і папулярнасць, непахіснасць у сваіх поглядах, усебаковая адукаванасць Адама Більдзюкевіча спатрэбіліся і тут. Падчас галасавання большасцю галасоў, а сярод іх былі вельмі вядомыя і паважаныя людзі з асяроддзя нацыянальнай інтэлігенцыі (А.Станкевіч, В.Гадлеускі, В.Рагуля. А.Уласау), Адам Більдзюкевіч быў абраны першым старшынёй гэтай установы. Даводзілася шмат працаваць, каб ажывіць культурніцкі рух, стварыць яму сацыяльную базу ў выглядзе кааператываў і банкаў, даць другое дыханне бібліятэкам, клубам, школам. Прыблізна ў той жа час ён разам з Браніславам Туронкам і Янам Васілеўскім арганізаваў Беларускі кааператыўна-земляробска-прамысловы банк. Імкнуўся ўсюды паспець і гэта яму ўдавалася.

У лютым 1927 года па ініцыятыве Адама Більдзюкевіча ў Вільні былі адчыненыя кааператыўна-гандлёвыя курсы, на якія ўскладаліся вялікія надзеі. Было атрымана больш 60 заяваў, але з прычыны нястачы памяшкання і сродкаў былі прынятыя толькі 30 чалавек, з іх 28 мужчын і 3 кабеты. Чыталіся лекцыі па такіх прадметах як асновы эканомікі, асновы і практыка кааперыцыі, навука аб гандлі, гандлёвая арыфметыка, бухгалтэрыя, беларуская гандлёвая карэспандэнцыя, польская гандлёвая карэспандэнцыя, таваразнаўства. Усе прадметы за выняткам польскай гандлёвай карэспандэнцыі вяліся на беларускай мове. Кіраваў курсамі сам арганізатар Адам Більдзюкевіч. У "Беларускім календары" за 1928 год чытаем: "Першыя беларускія кааператыўна-гандлёвыя курсы закончыліся 21 мая 1927 года. Гэтакім чынам, Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, для беларускай нівы змагання і будавання новага жыцця, прыспасобіў тры дзесяткі асоб, якім выпадае на долю быць піянерамі адраджэння беларускай кааперацыі".

Мусіць тады і ўзнікла ў Адама Більдзюкевіча задума на асабістым прыкладзе паказаць, як трэба ствараць і расшыраць беларускую сацыяльную базу. У хаўрусе з сястрой Касяй, якая ў той час жыла ў Вільні і працавала настаўніцай, вырашылі яны купіць аўтобус, які б курсіраваў з Радашкавічаў да Вільні. Хоць назваць беднымі іх на той час ніяк не выпадае (сястра была замужам за маёрам польскага войска), але грошай на пакупку не хапала, і толькі дапамога сяброў з беларускага банка вырашыла гэтае пытанне станоўча. Кандуктарам стаў Нікадзім Чараповіч. Кошт квітка складаў каля 8-10 злотых. Але, мусіць, не лёс быў, каб гэтая справа працягвалася доўга. Праз паўгода язды аўтобус сапсаваўся, для рамонту спатрэбілася 400 злотых, а грошай такіх не было, ды й адкуль яны маглі ўзяцца. Багатых пасажыраў было няшмат, а сялянства ўвогуле аддавала перавагу хадзьбе, бо грошы былі патрэбныя на іншыя справы. Так і скончылася гэтая задума нічым, хіба што застанецца ў гісторыі своеасаблівым напамінкам пра першы аўтобусны маршрут Радашкавічы-Вільня.

А Радашкавічы Адам Більдзюкевіч любіў. І не толькі таму, што гэта была яго радзіма і вельмі прыгожая мясціна, але і як месца багатай і бурнай беларускай гісторыі. У ім існавала ды існуе й цяпер нейкая непаўторная, выключная, толькі яму належная аўра, дзе вельмі востра адчуваецца пачуццё часовасці і вечнасці, нечага даўно мінулага, але дарагога і блізкага. Утульненькае і старасвецкае яно дае магчымасць увідавочку ўбачыць і адчуць той стары і прыемны подых сівой даўніны, той далёкай, але незабыўнай Беларусі, якая сілкавала і сілкуе нас духам і верай у лепшую будучыню.

## Развітальная песня

У адзін з такіх прыездаў у Радашкавічы А.Більдзюкевіч і пачаў працу над кнігай "Асновы грамадскай гаспадаркі". Яна прызначалася як падручнік "для сярэдніх школ і саманавучання". Складалася з чатырох раздзелаў: Вытворства, Зварот, Размеркаванне, Гісторыя эканомікі. Мела пяць табліц і тры малюнкі. У прадмове да кнігі аўтар пісаў: "Выпускаючы гэту працу перадусім маю на мэце даць пэўны сыстэматычны ўклад скарочанай эканомікі, які можа быць карысны як да лектара, так і для слухачоў гэтага прадмета". Безумоўна, Адам Більдзюкевіч разумеў, што "у гэтай скромнай працы немагчыма было ўсебакова і падрабязна абняць усе праявы грамадскага жыцця з эканамічнай стараны", тым не менш кніга напісана такой простай і зразумелай (наколькі гэта дазваляе эканамічная навука) мовай, што, чытаючы яе, не адчуваеш той жудаснай і велізарнай прорвы, якая існуе зараз паміж аўтарам і чытачом пры чытанні аналагічных кніг і падручнікаў, бо такія кнігі апошнім часам пішуць людзі зашораныя і нецікавыя, сухой і шэрай канцылярскай мовай штампаў і тэрмінаў. У Більдзюкевіча ўсё наадварот. Чысціня мовы, выдатны стыль, даходлівая логіка мыслення, закладзеная ў гэтую кнігу, ставіць яе ў лік найлепшых дасягненняў беларускай эканамічнай думкі пачатку нашага стагоддзя. Праца была надрукаваная ў 1926 годзе ў толькі што адчыненай беларускай друкарні імя Ф.Скарыны і была першай кнігай, якая выйшла з варштатаў гэтай "заслужанай пляцоўкі беларускага адраджэння". Акрамя гэтай кнігі змястоўныя артыкулы Адама Більдзюкевіча можна прачытаць у "Беларускім календары" за 1928-29 гады, у зборніку "З роднае нівы" (1928) ды іншых перыядычных выданнях. Пісаў ён шмат і на розныя тэмы, толькі не ўсё з напісанага дайшло да чытача. І не яго ў гэтым віна. Па словах Нікадзіма Чараповіча, у Адама Більдзюкевіча было шмат розных рукапісаў, якія захоўваліся ў старым і каваным куфры, толькі лёс апошняга, на жаль, невядомы. Недзе ў канцы 1928, а можа і ў пачатку 1929 года, Більдзюкевіч пабраўся шлюбам з маладой, прыгожай і вельмі абаяльнай дзяўчынай, якая мела імя Тэафілія, паходзіла з Баранавічаў, а па адукацыі была медык. Вянчалася маладая пара ў касцёле святога Мікалая ў Вільні, дзе пастарам быў ксёндз Адам Станкевіч. Ад шлюбу мелі дзвюх дзяўчынак. Сталі жылі ў Вільні, але часта, асабліва летам, прыязджалі ў Радашкавічы, адкуль часта выбіраліся ў вёску Удранку, якая знаходзілася за тры кіламетры ад мястэчка. Там і адпачывалі, маючы нешта накшталт лецішча...

У канцы 20-х гадоў Адам Більдзюкевіч ад актыўнай палітычнай дзейнасці адышоў. Што сталася таму прычынай – невядома. Можа сямейнае становішча таму віной (існуюць такія меркаванні), а можа і сам не хацеў быць у цэнтры розных палітычных спрэчак і рознагалоссяў, якія мелі месца ў тагачасным беларускім грамадстве. Цяжка сказаць пра гэта адназначна. Але беларускім патрыётам застаўся назаўжды. Той жа Нікадзім Чараповіч і ягоныя родныя сёстры неаднойчы гаварылі, што любімым выразам Адама Більдзюкевіча быў: "Каб жыла Беларусь!" У апошнюю вайну жыў у Радашкавічах, дзе працаваў дырэктарам канторы Цэнтральнага гаспадарчага таварыства. Адсюль і выехаў летам 1944 года ў Польшчу. Як склаўся яго далейшы лёс? На вялікі жаль – не ведаю. Але мяркую, што не лепшым чынам. Даходзілі чуткі, што жонка кінула яго, а дзеці адцураліся бацькі. Дажываў свой век у Ольштыне ў Доме састарэлых. Існуюць меркаванні, што ў апошнюю дарогу Адама Більдзюкевіча правёў ягоны сябар юнацтва і зямляк Юзік Будслаўскі...

Калі я першы раз прыехаў збіраць матэрыял пра Адама Більдзюкевіча, у Радашкавічах ішоў снег, пачыналася ранняя лістападаўская завіруха. Было даволі зімна і непрытульна на вуліцы. Але найбольш сцюдзёна было на душы. Прайшло толькі некалькі дзесяткаў гадоў, як не стала Адама Більдзюкевіча, а ўжо памяць людская (не кажу пра гістарычную і дзяржаўную – гэта тэма асобнай гаворкі) ледзьве згадвае яго прысутнасць на гэтым свеце. І гэта пра таго, хто так шмат зрабіў для сваёй зямлі, сваёй Радзімы. Быў першым старшынёй Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Напісаў першую кнігу, першы падручнік па эканоміцы ў Заходняй Беларусі. Першым... Ды што там гаварыць. Божа мой, што з намі робіцца, у каго мы ператвараемся, куды мы ідзём? Няўжо іржа абыякавасці і беспамяцтва настолькі глыбока раз'ела нашы душы, што вырвацца з яе няма ніякай магчымасці і жадання. Няўжо?

**Міхась КАЗЛОЎСКІ.**




*Партрэт работы Сяргея Шусціцкага*



АДАМ БІЛЬДЗЮКЕВІЧ.

АСНОВЫ
ГРАМАДЗКАЙ
ГАСПАДАРКІ

ВЫДАНЬНЕ АЎТОРА
Прагледжана Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры.

ВІЛЬНЯ 1926 г.

*Вокладка кнігі А.Більдзюкевіча.*

З ГІСТОРЫІ ШКОЛЬНІЦТВА

# Галасы разбуджаных птушак

## З гісторыі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі

*Я радзіўся за хатай пад плотам,*
*Дзе з крапівою шэпчацца вецер.*
*А мой край — лясы ды балоты*
*Даражэй мне за ўсё на свеце.*

*Алесь Дудар*

1864 год. Што ўяўляла сабой Маладзечна тае пары? Гэта было ціхае правінцыйнае невялічкае мястэчка, адрэзанае ад шырокага свету лясамі і балотамі. На той час у Маладзечне жыло 790 чалавек. Поп, пісар,ураднік, якіх цікавіла ў першую чаргу гарэлка і карты, з'яўляліся "носьбітамі адукаванасці ды інтэлігентнасці". Толькі што было задушана паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, на якое было так шмат надзей і спадзяванняў. Сам кіраўнік паўстання — дыктатар Літвы — скончыў сваё жыццё на шыбеніцы на Лукішскім пляцы. Сотні яго паплечнікаў былі павешаны, расстраляны, тысячы высланы ў далёкую і халодную Сібір. Пачалася татальная русіфікацыя. Край замёр у чаканні.

А ў гэты час у Маладзечне рыхтаваліся да ўрачыстасцяў. 25 чэрвеня 1864 года была заснаваная Маладзечанская настаўніцкая семінарыя, якая стваралася на базе былога павятовага вучылішча. З гэтай нагоды часопіс "Литовские епархиальные ведомости" пісаў: "Выхаванцаў у семінарыі на сённяшні дзень знаходзіцца казённых — дзевятнаццаць, а сваякоштных — пяць. Вялікая частка з іх падае цудоўныя надзеі на светлую будучыню новаадчыненага рассадніка рускіх і праваслаўных людзей".

Афіцыйнае адкрыццё семінарыі адбылося 22 лістапада (па новаму стылю) 1864 года. У семінарыю прымаліся юнакі не маладзей 16 гадоў праваслаўнага веравызнання, якія мелі за плячыма пачатковую школу. Для патрэб семінарыі царскі ўрад выдзеліў 6450 рублёў, менавіта такая сума выдзялялася ў мінулым для прагімназіі. Семінарысты вывучалі Закон Божы, гісторыю праваслаўнай царквы, заалогію, батаніку, арыфметыку, геаметрыю, царкоўнаславянскую і расійскую мовы, літаратуру, методыку выкладання, дыдактыку, псіхалогію ды іншыя прадметы. Тэрмін навучання быў спачатку два, а пасля 1907 года — чатыры гады. Ініцыятарам стварэння такога тыпу навучальных установаў быў папячыцель Віленскай вучэбнай акругі князь А.П.Шырынскі-Шыхматаў — вядомы русіфікатар і рэакцыянер. У штат семінарыі па інструкцыі ўваходзілі дырэктар, настаўнік Закона Божага, два настаўнікі і настаўнік народнага вучылішча, якое існавала пры настаўніцкай семінарыі. Выхаванцаў дазвалялася прымаць не больш 80 чалавек і на іх утрыманне выдаткоўвалася штогадовая сума ў памеры 11280 рублёў. Каб пераканацца ў тым, наколькі царскі ўрад быў зацікаўлены ў такога тыпу навучальных установах, дастаткова будзе сказаць, што толькі на паездкі па акрузе для набора кандыдатаў было адпушчана 400 рублёў. Асноўнай задачай семінарыі абвяшчаўся "уздым рэлігійна-нацыянальнай самасвядомасці рускага насельніцтва ў Паўночна-Заходнім краі". Адным словам, усё выхаванне трымалася на трох афіцыйных прынцыпах: самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць.

Першы настаўніцкі калектыў семінарыі складаўся з наступных асоб: І.А.Забелін (дырэктар), М.Іваноўскі (настаўнік Закона Божага), М.П.Барсаў, І.Л.Малішэўскі, а настаўнікам народнага вучылішча быў Антон Давідовіч. Усе, за выняткам апошняга, мелі вышэйшую адукацыю. У першы клас семінарыі было залічана 49 чалавек. У асноўным гэта былі выхадцы з Гродзеншчыны і Віленшчыны, а восем чалавек непасрэдна з Маладзечна. На працягу першых шасці гадоў Маладзечанская настаўніцкая семінарыя існавала па штатах 1864 года. Праўда, сам будынак семінарыі быў у такім дрэнным стане, што нават стаяла пытанне аб пераводзе навучальнай установы ў г.Саколку на Беласточчыне. Але паступова пытанне заглухла і пра гэта больш не ўспаміналі.

17 сакавіка 1870 года былі зацверджаны новыя штаты настаўніцкай семінарыі. Было павышана штатнае утрыманне з ранейшых 11280 рублёў да 14800 рублёў. Маладзечна і далей не заставалася без увагі. Семінарыю не аднойчы наведвалі грамадскія і дзяржаўныя дзеячы тагачаснай Расіі. Бываў тут міністар асветы Дз.А.Талстой, а таксама князь Мяшчэрскі (праўнук гісторыка Карамзіна), які прысвяціў нашаму гораду свой прачулы верш. Што сабой уяўляў будынак настаўніцкай семінарыі? Дадзім слова былым семінарыстам. Іван Адамавіч Міхалёнак успамінаў: "Вучэбны корпус уяўляў сабой масіўнае цаглянае двухпавярховае памяшканне ў выглядзе літары П з уласнай царквой. Тры вялікія аднапавярховыя драўляныя корпусы адводзіліся пад інтэрнаты семінарыстаў. Некалькі драўляных будынкаў меншага памера былі аддадзены пад кватэры для выкладчыкаў, дапаможныя службы і майстэрні, асобна стаяў вялікі драўляны будынак пачатковай школы..." Так выглядала семінарская сяліба ў пачатку XX стагоддзя.

Выкладчыкі і навучэнцы семінарыі насілі адметную форму. У 70-х гадах мінулага стагоддзя семінарысты былі апрануты так: кумачовая чырвоная кашуля (косаваротка), сінія штаны-шаравары, запраўленыя ў боты, шынель ці паўфутэрак. У 1907 годзе была ўведзена новая форма. Як пісаў у сваіх успамінах той жа Міхалёнак І.А. у той час навучэнцы выглядалі так: чорная суконная кашуля з дзягай і штаны навыпуск, чорны шынель з жоўтымі металічнымі гузікамі, чорныя чаравікі. На версе чорнай фуражкі прычаплялася жоўтая металічная стужачка з раздвоенымі канцамі і з трыма металічнымі літарамі МУС. На дзязе былі ж тыя самыя літары, што абазначалі "Молодечненская Учительская Семинария". А настаўнікі выглядалі інакш. І гэта зразумела. Яны хадзілі ў доўгіх сурдутах са знакамі адрознення ў пятліцах, якія паказвалі на прыналежнасці да таго ці іншага класа табеля аб рангах (калежскі рэгістратар, губернскі сакратар, калежскі сакратар, тытуляваны саветнік і калежскі асэсар). Дырэктар і выкладчыкі семінарыі ў сваёй большасці былі выпускнікамі духоўных акадэмій, але іншы раз патраплялі і тыя, што скончылі ўніверсітэты ці настаўніцкія інстытуты. Абслугоўваючым персаналам у семінарыі былі сяляне з Маладзечна і навакольных вёсак. Паблізу ад семінарыі знаходзілася яўрэйскае нацыянальнае вучылішча, дзе ў лепшыя часы займалася прыблізна 50 чалавек. Праграма гэтай установы адпавядала вышэйшаму пачатковаму вучылішчу. Ніякіх спрэчак і непаразуменняў паміж навучэнцамі гэтых навучальных установаў ніколі не было.

У 1860 годзе ў Маладзечне было заснавана пачатковае ўзорнае вучылішча, а з 1865 года яно было далучана да семінарыі і ў ім вялі практычныя заняткі выпускнікі апошняга курса. У яго прымалі хлопчыкаў і дзяўчынак, якія дасягнулі 10-гадовага ўзросту. Там выкладалі расійскую мову, чыстапісанне, маляванне, арыфметыку, спевы і Закон Божы. Існавалі тры класы, дзе займаліся 50-60 чалавек. Некаторыя з вучняў вучылішча пазней станавіліся семінарыстамі. Так рыхтаваліся новыя кадры для семінарыі.

За кожны клас семінарысты здавалі пераводныя экзамены. За першы клас — гісторыю старажытнага свету, за другі — гісторыю сярэдніх вякоў і расійскую мову (вусна), за трэці — новую гісторыю і геаграфію, а за чацверты клас былі выпускныя экзамены па расійскай мове (дыктант і сачыненне), па арыфметыцы і гісторыі Расіі. Калі хто-небудзь з навучэнцаў не здаваў экзамены з першага разу, то яго пакідалі на другі год альбо давалі пераэкзаменоўку на восень. У семінарыі строга сачылі за распарадкам дня. Агульны пад'ём у сем гадзін, малітва, сняданак, заняткі з 8 да 12 гадзін, потым 30-хвілінны перапынак і зноў заняткі да 16 гадзін. Акрамя таго кожны быў павінен адпрацаваць у садзе і гародзе. У сем гадзін вечара ўсе сядалі за падрыхтоўку хатніх заданняў, у 21 гадзіну была вячэра і ў 22 — агульная малітва і адбой. Згадзіцеся, што агульны распарадак нагадваў армейскі. Як піша Г.А.Каханоўскі, "у адкрытым пры семінарыі інтэрнаце панаваў жорсткі рэжым: усё было разлічана па хвілінах. Семінарысты самі апрацоўвалі зямлю пры семінарыі, былі садоўнікамі, нават царкоўнымі старастамі. Як запісана было ў семінарскім статуце, гэта навучальная ўстанова давала права спадзявацца, што яна зробіцца самай жыццёвай рускай установай у краі, складзе моцную апору супраць чужых уплываў на мясцовае сялянства".

На першым этапе станаўлення дырэкцыя не ставіла пытанне аб стварэнні майстэрняў па навучанні семінарыстаў розным рамёствам. Але праз нейкі час падыходы змяніліся. Была адпушчана пэўная сума грошай на стварэнне сталярных майстэрняў. Але іх было недастаткова, каб наладзіць навучанне на добрым узроўні, і таму з 1866 года пачалі вучыцца плесці кошыкі. Спачатку гэтым займаліся жадаючыя, але пазней гэта стала абавязковай нормай, і ў гэтым напрамку некаторыя дасягнулі выдатных вынікаў. З цягам часу пачалі працаваць такарныя і сталярныя майстэрні. І таму не дзіўна, што на акруговай выставе вучнёўскіх работ у Вільні семінарыя была ўзнагароджана заахвочвальнымі прызамі. У 1870 годзе пры семінарыі была заснавана метэаралагічная станцыя. Вось як пісаў пра гэта Генадзь Каханоўскі ў сваёй кнізе "Маладзечна": "Яна (станцыя) высылала матэрыялы сваіх назіранняў у Галоўную абсерваторыю ў Пецярбург. Тры разы ў дзень пад кіраўніцтвам настаўніка С.Вігілёва вяліся замеры. Станцыя праіснавала да 1884 года, але на гэтым гісторыя яе не скончылася: яна зноў дзейнічае з 1888 года да 1915 года. (Пасля метэаслужба ў горадзе аднаўлялася на некаторы час у 1925-29 гадах і ў 1954-64 гадах).

(Працяг будзе).

*Язэп РОКАШ.*



Семінарысты. Крайні справа Пятро Зяновіч.



На фоне навучальнай установы група семінарыстаў.

ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ



### ЯК НАЛЕЖЫЦЬ ЧЫСЦІЦЬ МАСЛА, КАБ ЯНО НЕ ГАРЧЭЛА І ЗАХОЎВАЛАСЯ НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ

У луджаны кацёл налiваюць гарачай вады ўдвая больш па вазе, чым масла, і кладуць яго туды. На маленькім агні ўвесь час мяшаюць, пакуль масла не растопіцца ў вадзе. Тады знімаюць пасудзіну з агню і ставяць у халодным месцы. Калі масла застыне, робяць у ім маленькую дзірку ля сценкі катла, які нахіляюць, каб вада праз адтуліну адышла і сцякла. Яна будзе амаль белага колеру, гэта значыць што ў масле мелася шмат малочных часцінак. А паколькі за адзін раз масла не можа ачысціцца цалкам, варку трэба паўтарыць тры ці чатыры разы, пакуль вада не зробіцца чыстай і празрыстай. Тады масла соляць і шчыльна-шчыльна ўкладваюць у гаршкі ці кадкі. Старанна закрыты посуд трымаюць у халодным, але не сырым месцы. Льга спадзявацца, што да чатырох гадоў не сапсуецца масла, зверху залітае моцна пасоленай вадой (ваду трэба пасаліць так, каб укінутае ў яе яйка плавала на паверхні). Таму яго добра браць у дарогу.

А хто так, як мы, літвіны, зведаў недахоп масла пасля мору скаціны ў 1844 годзе і хто прадбачлівы, той не ўпусціць магчымасцізапасціся ім на некалькі гадоў. Калі расходаваць увесь час масла, прыгатаванае раней, льга захаваць выробленае пазней як запас на выпадак няшчасця і цяжкага становішча.

*З кнігі "Літоўская гаспадыня".*

КУФЭРАК № 6

Адказны за падрыхтоўку матэрыялаў Міхась Казлоўскі.

У падрыхтоўцы "Куфэрка" да друку прынялі ўдзел Алесь Капуцкі, Анатоль Акулік, Рыгор Мяжуеў, Таіса Трафімава.

